


# THE WALKING DEAD

24

$2.99
$3.65 CAN

BY COMICS

ХАДЗЯЧЫЯ МЕРЦВЯКІ #24 (2003)
ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ: COMICSBY

KIRKMAN • ADLARD • RATHBURN


РЫК, ТЫ ЎЖО ПРАЧНУЎСЯ?

НАПЭЎНА. КЭРАЛ? ТЫ... ДОБРА СЯБЕ АДЧУВАЕШ?
ВІДАЦЬ, ХУТКА БУДУ.
А ПАКУЛЬ НЕ ВЕЛЬМІ.


КОЛЬКІ Я БЫЎ У НЕПРЫТОМНАСЦІ?


НЕ ВЕДАЮ. ПРЫКЛАДНА ДВАЦЦАЦЬ ШЭСЦЬ ГАДЗІН. ТЫ СПАЎ УСЮ НОЧ.
СЁННЯ ЧАЦВЕР. ВА ЎСЯЛЯКІМ РАЗЕ, МЫ ТАК ЛІЧЫМ. ХТО ВЕДАЕ, НАКОЛЬКІ КАЛЯНДАРНАЯ СІСТЭМА АНДРЭА ДАКЛАДНАЯ.


ДВАЦЦАЦЬ ШЭСЦЬ ГАДЗІН, ХУХ?
МЁРТВЫЯ ЛЮДЗІ ЎСЁ ЯШЧЭ ХОДЗЯЦЬ НАВОКАЛ?


ШТО?
ТАК, КАНЕШНЕ. ТЫ НЕ МОГ ТАК МОЦНА СТУКНУЦЦА ГАЛАВОЙ. ТЫ Ж УПАЎ НА СЦЯГНО.


ПРАБАЧ. ПРОСТА СПРАБУЮ ЖАРТАВАЦЬ. АПОШНЯЕ, ШТО Я ПАМЯТАЮ, Я БЫЎ ЗВОНКУ, А ПРАЧНУЎСЯ ТУТ, РАЗУМЕЕШ?
ГЭТА БЫЛО НЕ СМЕШНА.


НАПЭЎНА, Я ПРОСТА НЕ ЗРАЗУМЕЛА ЖАРТА.


ДРЭННЫ ЖАРТ. Я ДРЭННА ПАЖАРТАВАЎ.
ПРОСТА МОЙ СЯБАР ВЫБІЎ З МЯНЕ НУТРО. ЯШЧЭ АДЗІН МОЙ СЯБАР ПРОСТА ПАМЁР І МНОСТВА ІНШЫХ МЁРТВЫЯ. І БЯСКОНЦАЕ КОЛЬКАСЦЬ АСТАТНІХ МЁРТВЫХ ЛЮДЗЕЙ ХОДЗЯЦЬ НАВОКАЛ.
І Я ДРЭННА ЖАРТУЮ.
НАПЭЎНА, Я ГУБЛЯЮ ПАЧУЦЦЁ ГУМАРУ.



КЭРАЛ!!
ШТО ТЫ...?!
ШТО ГЭТА БЫЛО?!

Я ЧУЛА, ШТО ТЫ ЗРАБІЎ ДЗЕЛЯ МЯНЕ... З ТАЙРЫСАМ.
ТЫ ЗРАБІЎ ГЭТА ДЛЯ МЯНЕ... Я ЗНАЙШЛА ЯК АД...
ГЭТА ДЛЯ МЯНЕ ТАК ШМАТ ЗНА-ЧЫЦЬ.

Я РАДЫ, ШТО ЗМОГ ДАПАМАГЦІ. ТОЕ ШТО ЁН ЗРАБІЎ З ТАБОЙ, ГЭТА НЕ ПРАВІЛЬНА. МЫ ЎСЕ ПАВІННЫ БЫЦЬ БОЛЬШ АДКАЗНЫМІ.
ЯК ТЫ ДАВЕ-ДАЛАСЯ?
ПРА ГЭТА ЎСЕ КАЖУЦЬ З УЧОРАШНЯГА ДНЯ.
СЛУХАЙ. Я НІЧОГА НЕ СКАЖУ ЛОРЫ, КАЛІ ТЫ АБ ГЭТЫМ ТУРБУ-ЕШСЯ.


ТЫ НЕ СКАЖАШ?
ДЫ Я САМ СКАЖУ ЛОРЫ!


СЛУХАЙ, КЭРАЛ – ТЫ МНЕ ПАДАБАЕШСЯ. ТЫ МІЛАЯ ДЗЯЎЧЫНА. Я ВЕДАЮ ЛОРЫ І МЫ ЧАСТА СВАРЫМСЯ... З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК Я СУСТРЭЎ ВАС... АЛЕ ЯНА МАЯ ЖАНА І Я КАХАЮ ЯЕ.
Я ВЕДАЮ, ТЫ ПЕРАЖЫВАЕШ З-ЗА ГЭТАЙ ХЕРНІ З ТАЙРЫСАМ, І МАГЧЫМА, ТРОХІ НЕ Ў САБЕ З-ЗА СТРАТЫ КРЫВІ... Я РАЗУМЕЮ, ШТО ТЫ РОБІШ ТУТ, АЛЕ...
ГЭТА НЕ ТОЕ, РАЗУМЕЕШ? МЫ НЕ АДЗІНЫЯ ВЫЖЫЛЫЯ ЛЮДЗІ, НЕ МОЖА ТАКОГА БЫЦЬ. Я НЕ АПОШНІ МУЖЧЫНА НА ЗЯМЛЕ. ГЛУПА ДУМАЦЬ, ШТО Ў НАС УСЁ АТРЫМАЛАСЯ ЛЕПШ, ЧЫМ У КАГОСЬЦІ ІНШАГА. ЁСЦЬ ЯШЧЭ ТЫСЯЧЫ ХЛОПЦАЎ. ТАК ПАВІННА БЫЦЬ.

ДЭЙЛ І АНДРЭА ПРАГЛЯДАЮЦЬ ЗА САФІЯЙ ДЛЯ МЯНЕ. ПЭЎНА, Я ПАВІННА ПАЙСЦІ ЗАБРАЦЬ ЯЕ. УЖО ЧАС АБЕДАЎ.
ХЕРШАЛ СКОНЧЫЎ УСКОПВАЦЬ ГАРОД УЧОРА, ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ПАДЛЯЧЫЎ ЦЯБЕ.
АМАЛЬ УСЕ ЗАРАЗ ЗВОНКУ, ДАПАМАГАЮЦЬ ЯМУ САДЗІЦЬ НАСЕННЕ. ГЭТА НА ТОЙ ВЫПАДАК, КАЛІ ТЫ ЗАХОЧАШ ПАБАЧЫЦЬ УСІХ.





РЫК, ХЭЙ. КЭРАЛ СКАЗАЛА, ШТО ТЫ ПРАЧНУЎСЯ. АДЧУВА-ЕШ СЯБЕ НАРМАЛЁВА?
ДЭЙЛ, Я АДЧУВАЮ СЯБЕ ТАК, ШТО СПРА-БУЮ ЗАРАЗ З'ЕСЦІ СЯБЕ САМОГА.

ВЯРНІСЯ НАЗАД І ПРЫСЯДЗЬ. МНЕ ТРЭБА ПЕРАГАВА-РЫЦЬ З ТАБОЙ ПА-ХУТКАМУ.
ШТОСЬЦІ ДРЭННАЕ, ТАК?

МАГЧЫМА.
ЗАЛЕЖЫЦЬ АД...

ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ЧАГО?
ПРОСТА СЯДАЙ.


МОЖАШ СЯБЕ ЎЯВІЦЬ, ЯК БАЛЮЧА МНЕ БЫЛО ЎСТАВАЦЬ У ПЕРШЫ РАЗ?
ЛЕПШ, КАБ ГЭТА ШТОСЬЦІ БЫЛО ДОБРАЕ.

РЫК, ПАСЛУХАЙ МЯНЕ.
НІЧОГА СУР'ЁЗНАГА, САПРАЎДЫ. ГЭТА ПРОСТА...

ТЫ БОЛЬШ НЕ БУДЗЕШ ЛІДАРАМ.
РАЗУМЕЕШ?

ДЭЙЛ, МОЖАШ СЯБЕ ЎЯВІЦЬ, ЯК ГЛУПА Я СЯБЕ АДЧУВАЮ, КАЛІ ВЫ ЗАВЯЦЕ МЯНЕ «ЛІДАРАМ»?
ДЫК Я БОЛЬШ НЕ АДКАЗНЫ?
ДОБРА.

ПАСЛУХАЙ, СЫНОК, ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ТЫ ВЁЎ СЯБЕ ЎЧОРА... Я НАВАТ ПАДУМВАЎ, ПРА ТОЕ, КАБ ВЫЦЯГНУЦЬ СВОЙ ПІСТАЛЕТ ПЕРАД ТЫМ, ЯК ПАГАВАРЫЦЬ З ТАБОЙ.
РАДЫ БАЧЫЦЬ, ШТО ТЫ ЎЖО ПРЫЙШОЎ У СЯБЕ. ТЫ ПРЫМУСІЎ МЯНЕ НЕПАКОІЦЦА.

ПАЙШОЎ ТЫ. ТАЙРЫЎ АТРЫМАЎ ГЭТА. АКРАМЯ ТАГО, Я БЫЎ БЕЗ ПРЫТОМНАСЦІ ДВАЦЦАЦЬ ШЭСЦЬ ГАДЗІН.
ВЫ, ХЛОПЦЫ, ПРЫЗНАЧЫЛІ ЯГО АДКАЗНЫМ?






















МЯККА КАЖУЧЫ.

ТАК ВЫРАШЫЛА ГАЛАСАВАННЕ. МЫ БЫЛІ ВЕЛЬМІ ЗАНЯТЫЯ ЎЧОРА. І РЫК, МЫ ЗРАБІЛІ ГЭТА ТАМУ, ШТО ГЭТА ЎСЁ ЗАНАДТА ЦІСНУЛА НА ЦЯБЕ.

РАЗУМЕЕШ?

ТАК.


МЫ МАГЛІ ВЫБРАЦЬ, ТАК СКА-
ЗАЦЬ, НОВАГА ЧАЛАВЕКА. ЦІ МЫ
МАГЛІ ПРОСТА ВЫРАШАЦЬ УСЁ
КОЖНЫ САМ ЗА СЯБЕ... РАЗУМЕЕШ,
АБМЯРКОЎВАЛІ ГЭТА.
НІХТО НЕ
ПАЖАДАЎ ГЭТА-
ГА. ДЗІЎНА.
МЫ АБРАЛІ НЕШТА
БОЛЬШ ДЭМАКРА-
ТЫЧНАЕ. ЧАТЫРЫ
ЧАЛАВЕКА З РОЎНЫМІ
ГАЛАСАМІ.


БЕЗ
ЖАНЧЫН?


НЕ. ТАК
ЯНЫ САМІ
ПАЖАДАЛІ.


ПАТРЫЦЫЯ СКАЗАЛА НЕШТА. ЯНА
ХАЦЕЛА, КАБ У КАМІТЭЦЕ БЫЛА
ЛОРЫ ЗАМЕСТ ЦЯБЕ. І КАНЕШНЕ, ЯК
ТОЛЬКІ ЯНА ЗРАЗУМЕЛА, ШТО ЯЕ
НІХТО НЕ ПАДТРЫМЛІВАЕ...
ЯНА ПРЫКУСІЛА ЯЗЫК.
НЕ ВЕДАЮ, ШТО МІЧОНІ
ДУМАЕ ПРА ЎСЁ ГЭТА НА
САМОЙ СПРАВЕ, АЛЕ ЗДА-
ЕЦЦА, ЯНА САПРАЎДЫ
ШЧАСЛІВАЯ ТУТ. ЯНА
ПРАЙШЛА ПРАЗ ПЕКЛА І
БЫЛА ТАМ ЗНАЧНА БОЛЬ-
ШЫ ЧАС, ЧЫМ ХТОСЬЦІ
З НАС.
ЛОРЫ, КЭРАЛ,
АНДРЭА, МЭГІ - ЯНЫ ЎСЕ
ПРАГАЛАСАВАЛІ ЗА ТОЕ, КАБ
МЫ БЫЛІ АДКАЗНЫМІ. ЯНЫ
ЛІЧАЦЬ, ШТО НАС ЧАЦЬВЁРЫХ
ЦАЛКАМ ДАСТАТКОВА, КАБ
ПРЫМАЦЬ ПРАВІЛЬНАЕ РА-
ШЭННЕ. І ГЭТА ЗМЕНЬШЫЦЬ
ЦІСК НА ЦЯБЕ.
ЯНЫ ЗГАДЗІЛІСЯ,
КАБ МЫ ПРЫМАЛІ
РАШЭННІ. ПРАЎДА
НЕ ТОЛЬКІ ЖАНЧЫ-
НЫ, ГЛЕН ТАК САМА
ЛІЧЫЦЬ ТАК.


ДУМАЮ,
ЯНЫ ПРОСТА
ХОЧУЦЬ БЫЦЬ
АБАРОНЕНЫМІ.


СКАЖЫ МНЕ СУМЛЕННА, ДЭЙЛ. ЯНЫ ЎСЕ ЛІЧАЦЬ МЯНЕ ЗВАР'ЯЦЕЛЫМ?


...


НЕ ВЕДАЮ. НЕКАТОРЫЯ З ІХ – ВЕРАГОДНА. І ДАКЛАДНА ВЯДОМА, ШТО ТЫ НЕ ЛЮБІМЧЫК ТАЙРЫСА.
ТЫ НАКІНУЎСЯ НА ЯГО, РЫК.
ЛАЙНО З ТОМАСАМ. УСЕ ГЭТЫЯ РАЗМОВЫ ПРА ПАКАРАННЕ СМЕРЦЮ. АСЯКАННЕ НАГІ АЛЕНА. ЗАБОЙСТВА ДЭКСТЭРА... ГЭТА ЎСЁ САПРАЎДЫ ПУЖАЕ ЛЮДЗЕЙ.
ЛЮДЗІ НЕ ВЕДАЮЦЬ, ШТО І ДУМАЦЬ.


А ШТО ТЫ ДУМАЕШ?


Я НЕ ВЕДАЮ, РЫК. Я, САПРАЎДЫ, НЕ ВЕДАЮ.
Я ХАЧУ, КАБ З ТАБОЙ УСЁ БЫЛО ДОБРА. ГЭТА ДЛЯ ЦЯБЕ КАРЫСНА?


ТАК. А ЦЯПЕР ДАПАМАЖЫ МНЕ ВЫЙСЦІ ТУДЫ.
Я ХАЦЕЎ БЫ ПАГАВАРЫЦЬ З УСІМІ.


ТАК, ТАТА ПРАЧНУЎСЯ?
ЁН ДОБРА СЯБЕ АДЧУВАЕ?


ПАДАЕЦЦА, ТЫ ХВАЛЮЕШСЯ ЗА ЯГО?
НЕА. МОЙ ТАТА ПА-САПРАЎДНАМУ КРУТЫ
Я ЗУСІМ НЕ ХВАЛЮЮСЯ.


ТЫ ЗУСІМ НЕ ХВАЛЯВАЎСЯ? НАВАТ КРОПЕЛЬКУ?


НУ МАБЫЦЬ КРЫХУ.
АЛЕ ТОЛЬКІ З-ЗА ТАГО, ШТО ЁН ТАК ДОЎГА НЕ ПРАЧЫНАЎСЯ.


ДЗЕЦІ, ЗБІРАЙЦЕ СВАЕ ЦАЦКІ. ЧАС НА АБЕДЫ. КЭРАЛ ДАПАМОЖА МНЕ АДВЕСЦІ ВАС УНІЗ У КАФЕТЭРЫЙ, І МЫ ПЕРАКУСІМ БУТЭРБРОДЫ З АРАХІСАВЫМ МАСЛАМ.
ЗНОЎ?


ХУТКА МЫ БУД-
ЗЕМ АБЕДАЦЬ?
Я ГАЛОДНЫ.


НАМ ТРЭБА ВЫСАДЗІЦЬ
НАСЕННЕ Ў ЗЕМЛЮ ЗА-
РАЗ. УЖО АМАЛЬ ЛЕТА.
НАМ ТРЭБА СКОНЧЫЦЬ
З ГЭТЫМ СЁННЯ.
ДЫК КАЛІ
МЫ ЗМОЖАМ
ПААБЕДАЦЬ?


ЛОРЫ, КАЛІ ЛАСКА, Я Ж
СКАЗАЎ, ШТО ШКАДУЮ.
Я СКАЖУ ЯМУ ТОЕ Ж
САМАЕ, ЯК ТОЛЬКІ ЁН
ПРАЧНЕЦЦА.


АДРАЗУ ПАСЛЯ
ТАГО, ЯК ЁН
СКАЖА ГЭТА
ПЕРШЫМ.
ЯЛДАК.


РАБЯТЫ, КАЛІ ЛАСКА. Я ЧУЎ,
ШТО СКАЗАЎ ХЕРШАЛ. МЫ
ПАВІННЫ ВЫСАДЗІЦЬ УСЁ, І У
НАС АМАЛЬ НЯМА ЧАСУ, КАБ
ЗРАБІЦЬ ГЭТА.


ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ РЭДЗЯЎ.








ЦЯБЕ ЯШЧЭ НЕ ХАПАЛА.




ГЛЯДЖУ, РАБЯТЫ, ВАС ПРЫМУСІЛІ СУР'ЁЗНА ПАПРАЦАВАЦЬ.
НУДЗІЛІСЯ ПА МНЕ?




ДЭЙЛ РАСКАЗАЎ МНЕ, ШТО ВЫ АБМЯРКОЎВАЛІ ЎЧОРА.
ЁН СКАЗАЎ МНЕ, ШТО АДБЫЛІСЯ НЕКАТОРЫЯ ЗМЕНЫ.


ДОБРА.
ПАДТРЫМЛІВАЮ ВАС НА СТО АДСОТКАЎ.


Я НЕ ГАДЖУСЯ ДЛЯ ТАГО, КАБ ПРЫМАЦЬ РАШЭННІ ЗА ЎСІХ. НІХТО З НАС НЕ ГОДНЫ ДЛЯ ГЭТАГА.
КАМІТЭТ – ГЭТА ДОБРАЯ ДУМКА. ЛІЧУ, ШТО ГЭТА ТОЕ, ШТО САПРАЎДЫ ТРЭБА. У ГЭТЫМ ЗНАЧНА БОЛЬШ СЭНСУ.


Я ХАЧУ, КАБ ВЫ МНЕ СКАЗАЛІ ГЭТА АДКРЫТА.
АЛЕ ТАКСАМА Я ЗНАХОДЖУСЯ ПАД УРАДЖАННЕМ АД ТАГО, ШТО НЕШТА ГАВАРЫЛАСЯ І ПРА МЯНЕ. ПРОСТА ТРЭБА РАССТАВІЦЬ УСЕ КРОПКІ НАД «І».


РЫК, ПАСЛУХАЙ. МЫ ЎСЕ ПАВАЖАЕМ ЦЯБЕ І ЎДЗЯЧНЫ ЗА ЎСЁ, ШТО ТЫ ДЛЯ НАС ЗРАБІЎ... АЛЕ ТЫ ПАРУШЫЎ МЯЖУ.
ТЫ ЗАБІЎ ДЭКСТЭРА.


ШТО?!
ГЭТА ТОЕ, ШТО ВЫ, ЛЮДЗІ, НЕ МОЖАЦЕ ВЫКІНУЦЬ З ГАЛАВЫ?! ВЫ ЛІЧЫЦЕ, ШТО Я ЗРАБІЎ ПАМЫЛКУ?!


РЫК...


НЕ ПЕРАБІВАЙ МЯНЕ. У МЯНЕ ЁСЦЬ, ШТО ВАМ СКАЗАЦЬ, І ВЫ ПАСЛУХАЕЦЕ МЯНЕ.
ВЫ ЗАНАДТА ШМАТ ЧЫМ МНЕ АБАВЯЗАНЫ.


Я КОП, Я ВЕДАЮ, ШТО ТЭХНІЧНА ТОЕ, ШТО Я ЗРАБІЎ, ГЭТА НЕПРАВІЛЬНА. Я ВЕДАЮ ЗАКОНЫ. Я ВЕДАЮ, ЯК ГЭТА БЫЛО РАНЕЙ.
АЛЕ ЎСЁ ЗМЯНІЛАСЯ.


МЫ НЕ МОЖАМ НЕ ЗВЯРТАЦЬ УВАГУ НА ЗАКОНЫ, РЫК. МЫ ПАВІННЫ ЗАХАВАЦЬ НАШУ ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ.


ПРА ШТО Я І КАЖУ!


Я ЗАБІЎ ДЭКСТЭРА, КАБ АБАРАНІЦЬ НАС УСІХ. ЁН ПАГАРЖАЎ ВЫКІНУЦЬ НАС З ГЭТАГА МЕСЦА. З НАШАГА СХОВІШЧА. ЁН ЗБІРАЎСЯ ПРЫМУСІЦЬ НАС УЙСЦІ. ЯКАЯ ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ МОЖА БЫЦЬ ТАМ?! КОЛЬКІ ЛЮДЗЕЙ МЫ СТРАЦІЛІ ПАКУЛЬ ДАБРАЛІСЯ СЮДЫ?
Я ЎБАЧЫЎ РАШЭННЕ І ЗРАБІЎ ГЭТА. БЫЛА ВЯЛІКАЯ НЕСПАДЗЯВАНКА ПАД ЧАС НАПАДЗЕННЯ. ЗГОДНЫ, Я ПАВІНЕН БЫЎ АДРАЗУ ПРЫЗНАЦЦА – ПАТЛУМАЧЫЦЬ УСЁ ПРАМА ТАМ, АЛЕ Я ПАДУМАЎ, ШТО ВЫ МАГЧЫМА ЗАХОЧАЦЕ НЕ ВЕДАЦЬ, ЯКІМІ ЖОРСТКІМІ МЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ, КАБ ЗАСТАВАЦЦА ТУТ ДОЛЬШ.


ВЫ РАБЯТЫ, РАЗУМЕЕЦЕ, ПРА ШТО Я КАЖУ...
ТАК?


УСЁ ЗМЯНІЛАСЯ. СВЕТ ЗМЯНІЎСЯ. І НАМ ТРЭБА ЗМЯНІЦЦА РАЗАМ З ІМ.
РАЗУМЕЕЦЕ?
ЛЮДЗІ, ВЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ЛІЧЫЦЕ, ШТО НАС РАТУЮЦЬ?
ГА?


ЯНЫ НЕ ПРЫЙДУЦЬ!!!
ПАДУМАЙЦЕ ПРА ГЭТА! ГЭТА ПРАЦЯГВАЕЦЦА ЎЖО АМАЛЬ ГОД! МЫ АДНІ. ТОЛЬКІ МЫ Ў ГЭТЫМ СВЕЦЕ. ГЭТА ЎСЁ, ШТО Ў НАС ЁСЦЬ.
КАЛІ ВЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ЛІЧЫЦЕ, ШТО ХУТКА ЎСЁ СТАНЕ ТАК, ЯК БЫЛО РАНЕЙ, ПЕРАСТАНЬЦЕ! ГЭТА НЕ ТАК! НІЧОГА ЎЖО НЕ БУДЗЕ, ЯК РАНЕЙ.
НІКОЛІ!


ДУМАЕЦЕ, ШТО ВЫ КАЛІСЬЦІ ЗНОЎ БУДЗЕЦЕ ГЛЯДЗЕЦЬ ТЭЛЕВІЗАР? ХАДЗІЦЬ У БАНК? НАБЫВАЦЬ ПРАДУКТЫ? ВЕСЦІ ДЗЯЦЕЙ У ШКОЛУ?
НІКОЛІ!
ГЭТАГА НІКОЛІ НЕ БУДЗЕ! ВЫ МОЖАЦЕ ЗВЫКНУЦЬ З ГЭТЫМ СУМНЫМ ФАКТАМ ЦІ ВЫ МОЖАЦЕ АПУСЦІЎШЫ РУКІ ЧАКАЦЬ УСЯГО ГЭТАГА! ВЫ МОЖАЦЕ ПРОСТА ПАДПАРАДКОЎВАЦЦА ГЛУПЫМ МАЛЕНЬКІМ ЗАКОНАМ, ЯКІЯ МЫ САМІ ВЫНАХОДЗІМ, КАБ НЕ АДЧУВАЦЬ СЯБЕ ЖЫВЁЛІНАМІ... І ВЫ МОЖАЦЕ ЗДОХНУЦЬ!


МЫ БУДЗЕМ МЯНЯЦЦА! МЫ БУДЗЕМ РАЗВІВАЦЦА. МЫ ПРЫДУМАЕМ НОВЫЯ ЗАКОНЫ. І МЫ ЎСЁ ЯШЧЭ БУДЗЕМ ЛЮДЗЬМІ І ЎСЁ ТАК ЖА БУДЗЕМ КЛАПАЦІЦЦА АДЗІН ПА АДНАМУ.
АЛЕ КАЛІ ПРЫЙДЗЕ ЧАС – МЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ ГАТОВЫМІ ЗРАБІЦЬ ГЭТА НЕЗАЛІЖНА АД ТАГО, ШТО НАМ ДЛЯ ГЭТАГА СПАТРЭБІЦЦА, КАБ БЫЦЬ У НЕБЯСПЕЦЫ.
НЯГЛЕДЗЯЧЫ НІ НА ШТО!


«ТЫ ЗАБІЎ – ТЫ ПОМЕР».


ГЭТА БЫЛА, МАГЧЫМА, САМАЯ ГАЛОЎНАЯ РЭЧ, ЯКУЮ Я ХАЦЕЎ СКАЗАЦЬ.


САПРАЎДЫ. У БОЛЬШАСЦІ ВЫПАДКАЎ, АЛЕ ТУТ, ВЫЙШЛА ТАК, ШТО «ТЫ ЗАБІЎ – ТЫ ЖЫВЕШ».


МЫ ПАВІННЫ ПРЫСТАСАВАЦЦА ДА ГЭТАГА СВЕТА, КАЛІ ХАЦІМ ВЫЖЫЦЬ. ДУМАЕЦЕ, Я ТРОХІ ЗВАР'ЯЦЕЛЫ? МАГЧЫМА... ЗНАЧЫЦЬ ТАКІ СВЕТ.
Я ЗРАБЛЮ ЎСЁ, КАБ МЫ БЫЛІ Ў НЕБЯСПЕЦЫ. ШТО Б ГЭТА НІ БЫЛО – Я ЗРАБЛЮ ГЭТА.
ВЫ НЕ ХАЦІЦЕ, КАБ Я БЫЎ ЛІДАРАМ? ЦУДОЎНА. МНЕ ЎСЁ АДНО. Я РАДЫ, ШТО ПАЗБАВІЎСЯ ДА ГЭТАГА ГРУЗУ. І Я КАЖУ ВАМ ПРА ГЭТА ПРАМА.
КАЛІ ВЫ ХАЦІЦЕ СПЫНІЦЬ СПРЭЧКІ СА МНОЙ, ПРОСТА ПРЫМІЦЕ ГЭАТ.


АЛЕ ВЫ ПАВІННЫ СПЫНІЦЬ ГЭТА – ПЕРАСТАЦЬ ПАДМАНВАЦЬ САМІХ СЯБЕ.
ВОСЬ ЯНО. ГЭТА НАША ЖЫЦЦЁ. МЫ ТУТ НЕ ЧАКАЕМ. МЫ НЕ ЧАКАЕМ, ШТО ХУТКА ХТОСЬЦІ ПРЫЙДЗЕ ЗА НАМІ. І НЕ ЧАКАЕМ, ШТО ХТОСЬЦІ РАТУЕ НАС!
ГЭТА ТОЕ, ШТО Ў НАС ЁСЦЬ! ГЭТА ЎСЁ, ШТО Ў НАС КАЛІ-НЕБУДЗЬ БУДЗЕ.
КАЛІ ВЫ ХОЧАЦЕ ШТОСЬЦІ ВЫПРАВІЦЬ, ТАДЫ ПАЧНІЦЕ ЛЕПШ З ГЭТАГА МЕСЦА.

МЫ, РЫК, ГЭТА ТОЕ, ШТО ТЫ НЕ РАЗУМЕЕШ. МЫ СПРАБУЕМ НАЛАДЗІЦЬ ЖЫЦЦЁ ТАКІМ, ЯКІМ ЯНО КАЛІСЬЦІ БЫЛО. ГЭТА НАША МЭТА.

МЫ НЕ ХАЦІМ СТАНАВІЦЦА ДЗІКУНАМІ, ТАБЕ ГЭТАГА НЕ ЗРАЗУМЕЦЬ.

ВІДАЦЬ ЦЯПЕР Я АДЗІНЫ НАРМАЛЁВЫ ТУТ! МЫ ЎЖО ДЗІКУНЫ, ТАЙРЫС.

АСАБЛІВА ТЫ!

МЫ СТРАЛЯЕМ У ГАЛАВУ ГЭТЫМ АЖЫЎШЫМ ПАЧВАРАМ І ТОЛЬКІ АДЗІН З НАС ЗАБ'Е ІХ МАЛАТКОМ У ТВАР, А ПОТЫМ ЗНЯСЕ ІМ ГАЛАВУ.

МЫ ЎЖО СТАЛІ ТЫМІ, ХТО МЫ ЁСЦЬ!

УСЯГО-ТА. ГЭТА ТОЕ, ДА ЧАГО ЎСЁ ІДЗЕ. ВЫ, ЛЮДЗІ, НЕ ВЕДАЕЦЕ, ШТО МЫ ТАКОЕ.

МЫ АКРУЖАНЫ МЕРЦВЯКАМІ.

МЫ СЯРОД ІХ. І КАЛІ МЫ ПАМРЭМ, МЫ СТАНЕМ ІМІ! МЫ ЖЫВЕМ У ПАЗЫКУ. КОЖНАЯ ХВІЛІНА НАШАГА ЖЫЦЦЯ, ГЭТА ХВІЛІНА СКРАДЗЕНАЯ Ў ІМ!

ВЫ БАЧЫЦЕ ІХ ТАМ. І ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО КАЛІ МЫ ПАМРЭМ – МЫ ПЕРАТВАРЫМСЯ Ў ІХ. ВЫ ДУМАЕЦЕ, ШТО СХАВАЕЦЕСЯ ЗА МУРАМІ, КАБ АБАРАНІЦЦА АД ХАДЗЯЧЫХ МЕРЦВЯКОЎ?

ЦІ НЕ ТАК?

МЫ
САМІ
ХАДЗЯЧЫЯ
МЕРЦВЯКІ!

МЫ САМІ
ХАДЗЯЧЫЯ
ТРУПЫ.

ПРАЦЯГ НА ComicsBY.by БУДЗЕ!